У нумары: Народны паэт Беларусі ● Літаратурная старонка ● Конкурс «МАЕ МАРЫ»


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 22 (277) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 3 ЧЭРВЕНЯ 1962 | ЦАНА 60 ГР.


## ДА 80-ГОДДЗЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

## НАРОДНЫ ПАЭТ БЕЛАРУСІ

Імя народнага паэта Беларусі Янкі Купалы шырока вядома не толькі ў Савецкім Саюзе, але і за яго межамі. Вершы, паэмы, п'есы, артыкулы пісьменніка ўзбагацілі скарбніцу нацыянальнай культуры і сусветнай літаратуры.

Янка Купала (Іван Дамінікавіч Луцэвіч) нарадзіўся 25 чэрвеня (7 ліпеня па новаму стылю) 1882 года ў вёсцы Вязынка, непадалёк Радашковіч, у сям'і беззямельнага, дробнага арэндатара.

Вандруючы з сям'ёй бацькі па вёсках і маёнтках, ён рана спазнаў жыццё селяніна - працаўніка. Частыя пераезды перашкаджалі вучобе, але нягледзячы на гэта будучы літаратар набывае веды самаадукацыяй. Маючы пятнаццаць год ён закончвае Беларускае трохкласнае народнае вучылішча. Пасля смерці бацькі ў 1902 годзе ўсе клопаты аб сям'і ляглі на Івана Дамінікавіча. Спачатку ён працуе дома, потым хатнім настаўнікам, эканомам у маёнтку, рабочым на бровარным заводзе.

Спатканні з сялянамі, рабочымі і праца ўзбагацілі яго жыццёвы вопыт. Ён кахаў родную прыроду, захапляўся яе прыгажосцю. Але ён бачыў перш за ўсё сацыяльную няроўнасць, прыгнечанае становішча простых людзей. У сваіх творах паэт выказаў думы і спадзяванні народа, і таму яго вершы так блізкія шырокім масам працоўных.

Першы верш Я. Купалы «Мужык» быў надрукаваны на беларускай мове 15(28) мая 1905 года ў прагрэсіўнай мінскай газеце «Северо-западный край». Твор знамянальны тым, што апяваў працоўную і чалавечую годнасць беларускага селяніна. З'яўленне ў друку гэтага верша — выдатны факт, які сведчыць аб нараджэнні нацыянальнага паэта.

Рэвалюцыйныя матывы знайшлі адлюстраванне ў першым зборніку яго вершаў «Жалейка», які быў выданы ў Пецербургу ў 1908 годзе беларускім выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша аконца».

У гэтай кнізе, якой так баялася царская цэнзура і двойчы забараняла яе (у Пецербургу і Вільні), змешчаны такія купалаўскія вершы, як «А хто там ідзе?», «Касцу», «З песень беззямельнага мужыка», «Я мужык - беларус», «Чаго б я хацеў» і іншыя. Гэтыя вершы будзілі палітычную самасвядомасць беларусаў — працоўных і клікалі іх да барацьбы за грамадскія правы. Не выпадкова верш «А хто там ідзе?» вядомы рускі пісьменнік М. Горкі назваў гімнам беларускага народа і ў 1910 годзе пераклаў яго на рускую мову.

Пазней у Пецербургу выходзяць новыя кнігі Я. Купалы. Гэта зборнікі вершаў «Гусляр» (1910), «Дарогай жыцця» (1913), драматычныя паэмы «Адвечная песня» (1910), «Сон на кургане» (1912). Яны канчаткова пераканалі чытача, што ў асобе Янкі Купалы беларускі народ мае шчырага лірыка, песняра здольнага тварыць і паэмы эпічнага характару. Ён жа напісаў драматычную паэму «На папасе», у якой Я. Купала ўпершыню ў беларускай літаратуры паказаў вобраз рэвалюцыянера.

Чытанне кніг развіло ў паэта вялікае імкненне да вучобы, да ведаў. Іван Дамінікавіч едзе «за навукай» у Пецербург (1909) і паступае на агульнаадукацыйныя курсы А. Чарняева. Тут Я. Купала зближаецца з прагрэсіўнай студэнцкай моладдзю і са студэнтамі-земля-

(Працяг на стар. 2)





**Звыш, чым на 60 моў свету перакладзены творы Я. Купалы. Яго перакладалі 200 паэтаў розных кантынентаў. Мантаж твораў, выданых на розных мовах свету.**

## ДА НАСТАЎНІКАЎ, ДА ШКОЛЬНІКАЎ, ДА УСІХ ЧЫТАЧОЎ

**НАШ МІЛЫ ЧЫТАЧ!**

**Набліжаецца лета. А з ім больш работы. І менш вольнага часу.**

**Як мала часу, то хацелася б чытаць толькі рэчы вельмі цікавыя.**

**Таму рэдакцыя рыхтуе для «Нівы» на летні сезон асабліва цікавы матэрыял.**

**Закапаўшыся ў штодзённых клопатах, не забудзь пра «Ніву». Зрэшты, яна сама Табе штотыдня прыпомніцца зялёным, як Твае поле, напісам «Ніва» на стале, калі цяпер, не адкладаючы, выканаеш адну ўмову: на пошце, або ў паштальёна заплаціш 7,20 зл. «Ніва» абяспечана на 3 месяцы. За месяц плаціцца менш — 2,40, але тады трэба помніць, каб штомесяц іх уплаціць.**

**ЗВЯРТАЕМСЯ З ГАРАЧАЙ ПРОСЬБАЙ І ДА ПРАДСТАЎНІКОЎ ПОШТЫ, ПІСЬМАНОСЦАЎ ЗАСЛУЖАНЫХ І АХВЯРНЫХ: помніце самі і ў патрэбе прыпамінайце аб падпісцы на «Ніву» нашым дагэтуляшнім чытачам і новым. Наша ўдзячнасць для Вас зразумелая.**

**ДА НАСТАЎНІКАЎ — КАВАЛЁЎ СЭРЦ ВЫХАВАНКАЎ НОВЫХ ПАКАЛЕННЯЎ.**

**За дагэтуляшнюю дапамогу рэдакцыі Вам наша неабмежаваная ўдзячнасць. І ў даны момант напярэдадні летніх канікул мы чакаем на Вашы арганізатарскія здольнасці ў папулярызацыі і падпісцы «Нівы», на сілу Вашага аўтарытэта сярод дарослых і дзяцей. Гэта ж для нашага супольнага дабра, для супольнай радасці, для супольнай славы.**

**ДА НАШЫХ ЛЮБІМЫХ ШКОЛЬНІКАЎ —**

**Ужо хутка з пасведчаннем у руках вясёлай грамадой выскачыце са школы на заліты сонцам панадворак. Дзверы школы зачыняцца за Вамі на 2 месяцы. Школа замоўкне. Засумуе. Ды і Вы па ёй - знаем як гэта бывае. Але, дзеці, у гэтай Вашай летняй радасці і ў гэтым Вашым сумаванні Ваша родная «Ніва» і «Зорка» хочуць быць з Вамі. «Зорка» ў ніякім выпадку не хоча з Вамі растацца. Не забудзьце і Вы аб падпісцы на «Ніву» на час летніх канікул. «Зорка» будзе прыносіць Вам з сабой увесь свет, свет Ваш і свет усіх дзяцей.**

**Падпіску квартальную і месячную прымаюць усе пошты і ўсе пісьманосцы.**

**ВЕТЛІВА ПРЫПАМІНАЕМ.**

**З павежаннем Рэдакцыя.**

Сцяпан Карбоўскі

# Літаратурная старонка

Трыбуна літаратурнага аб'яднання

№ 43



**СЦЯПАН КАРБОЎСКІ**, год 22, з вёскі Чахі-Забалотныя, Бельскі павет, працуе на гаспадарцы і вучыцца завочна ў Карэспандэнцыйным ліцэі ў Беластоку, актыўны грамадскі дзеяч, сакратар мясцовага сельгасгуртка.

# БУЛЬБА

Грышка сядзіць у сваім садзе ля ліпаў і пужае зязюлю. Проста на яго глядзіць асьняе сонца. І тут забывае, што мае далей пачаць. Кругом цішыня, толькі час ад часу заспявае певень. А там на полі працуюць людзі, і працуе яго маці.

— Ку-ку! — пачуўся голас зязюлі.

— Пацалуй Дзмітра ў руку! — адказвае Грышка.

— Ку-ку! — ізноў чуе голас зязюлі.

— Пацалуй Дзмітра ў руку, — паўтарае Грышка. Так размаўляе Грышка з птушкай.

Грышка задумаў адалець зязюлю, але яна ўсё роўна кукае. На гэтае куканне адказаў ужо разоў дзесяць. Такую мову можа ён вясці нават цэлы дзень. Бо сёння ён свабодны. Маці пашла працаваць да Дзмітра, а бацька косіць у Сцяпана. Ён нават вечарам не прыходзіць. Там начуе і працуе. А старшай сястры, Надзькі, ён не баіцца, а ў дабавак яна не мае часу шукаць яго. Яна павінна зрабіць парадак у хаце, накарміць гусі і малога бурыка.

— Ку-ку! — даносіцца голас.

Хлапчук не паспеў адказаць, як пачуў голас сястры.

— Грышка! Дзе ты?

Ён хаця яшчэ малы, але хітры. Не адразу адгукнецца. Будзе маўчаць так доўга, пакуль Надзька не скажа, чаго кліча.

— Грышка! Абедаць!

Ге, абедаць заўсёды ён пойдзе! Раптоўна ўстае і бяжыць у хату. Надзька сустракае яго, пытае, дзе быў. А потым мяркуе злавіць яго за смаркаты нос. Але ён не даецца.

Дзед Антось сядзіць на малюсенькім столачку, а Грышка і Надзька сядаюць проста на падлозе. З варанай бульбы ідзе пара. Дзед сядзіць і не пачынае есці, а Грышка баіцца, бо ведае адно, што пакуль дзед не пачне, то са стала нельга нічога браць. І раптам Грышка прыкмеціў бульбу, якая добра ўварылася. Ах, што будзе, калі не возьме дзед. Грышка ўжо і не дыхае, а сочыць за рукой дзеда. Але на шчасце стары дзед бярэ іншую. Грышка хватае за бульбу, перакідае з рукі ў руку і бяжыць па соль, соліць і есць. Усадзіў у рот і балбоча, што гарачая, але гэта чуе дзед і кажа:

— Халадзі, дурненькі, — пад носам маеш вецер! — голасна смяецца з унука. Але на канец захіхаталі ўсе трое. Грышка некалькі хвілін маўчыць, а потым пытае:

— А дзе ж гэты вецер?

— А ў горле! Падуеш і будзеш мець вецер, — вучыць Надзька. Дзед у гэты час сочыць па стале, а потым пытае ўнучкі, ці няма крыху да бульбы масла. Грышка карыстае з гэтага і бяжыць на двор. Потым хаваецца ў садзе, каб пагаварыць з зязюляй. Яе няма, яна паляцела. Хлапчук пакідае сад і бяжыць на вуліцу. Тут спатыкае Мішку і Максіма. І яны разам ідуць у канец вёскі, дзе будуць будаваць печкі з пяску.

— Але перш за ўсё пойдзем на ямы, — кіруе Мішка.

Так і робяць; ідуць туды, а тут выпрабоўваюць свой спорт. Першы скача цераз яму Грышка, а потым Мішка, а Максім бэнц у яму і крычыць «ратунку». Тады Грышка з Мішкам падаюць рукі і выцягваюць яго з ямы.

Потым бягуць у агарод да Паўла па сухія жэрдкі. А потым іграюць у коні — выбягаюць на вуліцу, імчацца, стараючыся падняць як найбольш куравы. Але гэта не цешыць Грышку, яму хочацца ўбачыць матку. Пакідае ігру і бяжыць да Дзмітра, там на яго полі капае маці бульбу.

Ён шпарка імчыцца да маткі і бачыць, што з ёю працуюць і другія жанчыны. Грышка хоча памагчы матцы. Бярэ бульбу найменшую і кідае ў кошык да вялікай бульбы. Маці сварыцца і праганяе яго. Пакідае матку і імчыцца да старога Дзмітра. Хутка, як вецер, бяжыць да хаты. І раптоўна ўжо ў хаце. Нясмела прачыняе дзверы і бачыць, як сям'я Дзмітра абедае. За сталом сядзіць Дзміцер, стары, як свет, твар яго пануры і аброс барадою, а вочы далёка схаваліся ў яго мудрую галаву. Паабапал яго сядзяць сыны, але не сухія, а тлустыя, як вяпры. Далей сядзяць нявесткі, унукі. А між імі малая Валя. Цётка Ольга, Дзмітрава жонка, а старога Дзмітра нявестка, скоса паглядае на Грышку. І потым адварочвае галаву ў другі бок.

— За жабракамі не паабедаеш спакойна, — шыпіць праз зубы. Бледны Грышка быстрымі вачыма шукае жабракоў. Але іх нідзе няма. Хоча паклікаць Валю, але баіцца і глядзіць на стол. Там поўна ўсяго, як на вяселлі. Дык трудна, бацька Грышкі малоціць цэпам, а Дзмітравы сыны манежом і машынай.

Ольга выцягвае з печкі чыгун баршчу, налівае ў міскі і ставіць на стол. Дзміцер, сын старога Дзмітра, бярэ ложку і прабуе. Але тут твар яго набягае крывёй, а ў вачах становяцца слёзы. Паспешна плюе і ругаецца.

— Згінь і прападзі сам боршч! Які гарачы!

Грышцы гэта па душы і ён весялее.

— Халадзі, дурненькі! Пад носам маеш вецер!

— Распусціла свайго карапуза! — галосіць яна. — Дзміцер бярэ цябе на работу, плаціць трошы, а гэты шчанюк яго называе дурнем. Так у хаце чалавека крыўдзяць! Дурнем назваў. Ах, дзе гэта хто бачыў, ці чуў!

— Лупцуй, лупцуй і лупцуй яго! І то зараз, каб я бачыла! Сэрца ў малых грудзях забілася яшчэ мацней.

— Лупцуй! — раве расшалелая Ольга. — Так, каб скура патрэскалася!

— паўтарае дзедавы словы і заносіцца смехам, чакаючы, што будуць смяяцца ўсе.

Але ніхто не засмяяўся. Толькі адна Валя захіхатала і раптоўна заціхла. Яе штурхнуў бацька. Дзміцер багравее, накіроўвае свае вочы на Грышку і пытае:

— Ты каму гэта гаворыш, шчанюк?

Грышка не можа зразумець, за што так ён раззлаваўся. Але не толькі Дзміцер яго лае, на яго паглядаюць касяком ўсе з-за стала.

— Якая вярба, такая і лаза, — гаворыць Ольга. — Трэба сказаць Марыі, няхай вылупцуе.

— Так, так, — цягне стары Дзміцер. — Няхай так лупцуе, каб скура патрэскалася. Трэба навучыць!..

— Прэч з-за дзвярэй, шчанюк! — крычыць Дзміцер.

Стары Дзміцер голасна смяецца і глядзіць на хлапчука. Грышка стаяў як укопаны. Што ён сказаў? Навошта гоняць з хаты? А ў гэты час Ольга асцярожна кіруецца, быццам да печкі. Раптоўна хватае Грышку за вушы. Ён як ашаломлены апынуўся ў сенях. А адгэтуль паімчаўся на панадворак. Стралою ён імчыцца да сваёй маткі, хаваецца за кошыкі і цяжка ўздыхае.

— Што сталася? — пытае яго маці.

Але расшалелая Ольга ўжо тут.

Грышка кінуўся ўцякаць, але тут схапіла яго маці, хоча вырвацца. Але маці перагінае яго на калена і лупцуе... Ён плача, але гэта не памагае і ніхто на гэта не звяртае ўвагі. Яна паднімае кашулю і б'е яго па голым целе. Так абараніла яго маці! Дык не



схаваўся ад пабояў. Яго малое сэрца запоўнілася крыўдай. Ніхто не бароніць Грышкі. Другія жанчыны стаяць і маўчаць. А Марыся ўсё лупцуе і лупцуе.

— Лупцуй, лупцуй!

З хаты выбягае стары Дзміцер, а калі ўбачыў, што Грышку б'юць, смяецца і спявае:

Ах! як крыкнуў на ратунак
Збегся цэлы пастарунак...

Грышка далей знесці пабою не можа. Спрытна кусае матку за руку, а яна, крыкнуўшы, пускае Грышку. Той, як пазбаўлены розуму, імчыцца ў лес. Знаходзіць густы алешнік, хаваецца. Плечы яго паліць, як полымем. Асцярожна водзіць пальцамі па плячах і пераконваецца, што скура не патрэскалася. Родзіцца думка аб помсце. Ён тут будзе сядзець цэлую ноч, захварэе, а потым памрэ. Няхай паплача маці так, як я плакаў. Потым прыходзіць Надзька, кліча яго, а ён ідзе ў лес.

Перад самым вечарам вяртаецца дамоў маці. Грышка, вышаўшы на бераг, усё бачыць. Маці нешта расказвае дзеду, а потым заве яго зноў. Але Грышка маўчыць.

— Ага! Паспрабуйце пашукаць мяне! Так, тут я буду сядзець цэлую ноч і нават заўтра цэлы дзень.

Праз некалькі хвілін маці заве Грышку. Потым ходзіць па садзе, заглядае ў калодзеж. Вось ён бачыць усё, але робіцца цямней і цямней. Нарэшце не бачыць ён маці, але чуе яе неспакойны голас. Яна кліча Грышку.

— Грышка! Дзе ты? Грышка! Цябе кліча дзед і Надзька.

Усё заціхае, а Грышка, сеўшы на беразе лесу, думае аб гэтай хвіліне, калі ён будзе дарослым. Але ў гэты час агортвае яго нейкі страх. Нешта шуршыць у траве, і раптам штосьці халоднае датыкаецца да нагі.

— Рапуха-жаба!

Схапіўшыся на ногі, накіроўваецца да хаты і імчыцца. Ужо было добра цёмна. Ах! Дома няма газы, таму і ў хаце цёмна. Але дзверы пакінулі адчыненыя, каб увайшоў Грышка. На парозе сядзіць дзед, кашляе і нешта сам з сабою гутарыць.

— Навошта яго білі? Ён яшчэ малы і смаркаты... Ці ён гэта разумее?

А ў гэты час Грышка падыходзіць да хаты. Стае за вуглом і думае. Але думка раптоўна ўрываецца... Нейкая рука ў гэты час ловіць яго проста за кашулю. Хоча вырвацца, але ён яшчэ за слабы. Думае, цяпер зноў ён дастане ў скуру за гэта, што не адклікаўся, калі клікалі яго. Добрая маці не б'е яго. Абняўшы яго патрэсканымі рукамі, гладзіць па галаве і дробным тварыку.

— Няшчасная ты мая дзяціна, — ціха гаворыць маці.

А Грышка ў гэты час чуе, як цёплыя слёзы падаюць на яго галаву. Малое сэрца ахоплівае жудасны жаль. Злосць да маткі адыходзіць далёка, далёка, а ён моцна прыціскаецца да яе, ціха, ціха плачучы.

— Сыну, я цябе не біла, Ольга цябе біла, — праз слёзы гаворыць маці. І мокрым сваім тварам датыкаецца да маленькага тварыку. Малая галава Грышкі памятала розныя гутаркі. Гаварылі людзі між сабою, што цяжка нам бедным жыць. Трэба зарабляць у багацеяў. Цяпер ён зразумеў, што маці яго не біла, але яе заставіла Ольга.

— Ну дзіця, хадзі пойдзеш спаць, — ласкае Грышку маці і асцярожна бярэ яго на рукі. Цяпер усё дарue сваёй матцы, але не можа дараваць для Ольгі і старому Дзмітру. Маці асцярожна кладзе спаць малога Грышку. І яму сніцца вараная бульба.

СЦЯПАН КАРБОЎСКІ

 

# КШЧОНАЎСКІ ЭКСПЕРЫМЕНТ

Вёска Кшчонаў у Быхаўскім павеце Люблінскага ваяводства знешне нічым не адрозніваецца ад многіх іншых. Не знаходзіцца яна нават на шляху камунікацыйным. Аднак жывуць тут ініцыятыўныя людзі, з вопытамі грамадскай працы, якімі цікавяцца жыхары не толькі свайго ваяводства, але і суседніх раёнаў Польшчы.

Неяк так сталася, што пасля вызвалення шмат жыхароў Кшчонава пакінула сваю мясцовасць — моладзь масава пайшла ў школы, а стрэйшыя пасяліліся ў гарадах. Тая частка насельніцтва, якая засталася ў вёсцы, жыла далей па-старому, апрача таго, што некаторыя сяляне павялічылі плошчу сваіх зямельных угоддзяў коштам пакінутых гаспадарак.

І вось некалькі вясковых дзеячоў на чале з настаўнікамі пачало задумвацца над патрэбай павязання ўсіх выхадцаў вёскі з яе шэрым жыццём. Аказалася, што многія аднасяльчане, дзякуючы народдай уладзе, а таксама працы над сабою, сталіся вядомымі спецыялістамі: навуковымі працаўнікамі Акадэміі Навук і вышэйшых установ, інжынерамі, лекарамі, грамадска - культурнымі дзеячамі і гэтак далей. Кіруючы адказнымі адрэзкамі дзяржаўнага жыцця, яны адарваліся ад свайго асяроддзя і не аказалі на яго ніякага дадатнага ўздзеяння.

Вырашана склікаць з'езд кшчонаўцаў. Пасля правядзення падрыхтоўчых прац з'езд такі адбыўся, але эфекты яго перайшлі найбольш смелыя фантазіі арганізатараў. Перад звыш 400 удзельнікамі было пастаўлена заданне супольнага паднясця эканамічнага жыцця і ажыўлення культурнага жыцця вёскі. Была пакінута дагэтуль практыкаваная параднасць — пачалася канкрэтная праца. Кожны хацеў з сябе даць вёсцы столькі, на сколькі яго было стаць у даны момант. І так, група інжынераў прыступіла да дэтальнага бадання глебы, іншыя да рабення планаў святліцы, дома селяніна і г.д. Навуковыя працаўнікі правялі археалагічныя раскопкі, гісторыкі стварылі манаграфіі вёскі, людзей, хроніку школы. Дзесяткі іншых спецыялістаў забавязаліся грамадска праводзіць гутаркі на сарганізаваных некалькіх курсах, а тыя кшчонаўцы, якія не чуліся падрыхтаванымі да выконвання ўспамянутых заданняў, далі грашовыя ўклады або працу пры будове аб'ектаў грамадскага карыстання.

На працягу некалькіх год шмат чаго зроблена і далей робіцца ў Кшчонаве. Зараз у эканамічна - культурных адносінах гэтая вёска розніцца ад суседніх. А гэта яшчэ толькі пачатак прагрэсу.

Насоўваецца думка, ці сапраўды нельга было б скарыстаць нам з кшчонаўскага эксперыменту? У многіх вёсках — Белавежы, Аўгустове, Рыбалах, Трасцянцы, Подварках, Паўночным і Паўднёвым Востравах і многа, многа іншых, зараз сітуацыя выглядае так, як некалькі год таму ў вёсцы Кшчонаў. З гэтых вёсак выйшла па некалькі соцен людзей, якія выраслі на спецыялістаў кіруючых адказнымі адрэзкамі працы. Але яны забыліся пра свае вёскі і наведваюць іх у найлепшым выпадку ў святочныя дні «для параднасці». У гуртках часта сцвярджаюць самі гэты недахоп і гатовы аказаць аднасяльчанам вялікую дапамогу. Не хапае ініцыятараў. А можа гэтай справай зацікавіліся б паасобныя грамадска - культурныя арганізацыі?

ую.

ВЫСТУПАЮЦЬ

## Беларускія п'есы на сцэне Гайнаўскага „Гурніка”

13 мая ў Гайнаўскім «Доме шахцёра» адбыўся павятовы агляд гурткоў мастацкай самадзейнасці на кубак «Нівы». У аглядзе прымалі ўдзел драматычныя гурткі з Чыжоў, Ляшукоў і Скупава.

Агляд калектываў мастацкай самадзейнасці карыстаўся вялікім зацікаўленнем сярод жыхароў Гайнаўкі. Вялікая зала «Дома шахцёра» была амаль да апошняга месца запоўнена моладдзю і старэйшымі людзьмі. Некаторыя прыехалі нават з адлеглых вёсак. І хоць з тэхнічных прычын агляд пачаўся на дзве гадзіны пазней планаванага часу — ніхто з прысутных не хацеў пакідаць залу, чакаючы на выступленні.

Першым выступаў драмгуртк з Чыжоў з пастаноўкай п'есы Няфёда «Жыць на гэтым свеце».

Вельмі актуальная гэта п'еса для нашага асяроддзя. А калі яшчэ дадаць добрую ігру Чыжоўскіх самадзейнікаў, дык нічога дзіўнага, што выступленні ўспрынята вельмі сардэчна і горача.

У гэтым немалая заслуга настаўніцы Чыжоўскай школы — Генрыкі Кульчакевіч, мастацкага кіраўніка гуртка, якая ўжо 11 год грамадска працуе з пазашкольнай моладдзю вёскі.

Драмгуртк з Ляшукоў паказаў п'есу Галубка — «Суд». Ляшуцкі калектыў на высокім мастацкім узроўні. Проста не верыцца, што яго «артысты» — самадзейнікі. І ў гэтым выпадку заслуга кіраўніка мясцовай школы — Аляксандра Харкевіча, які, дарэчы, найбольш па-мастацку выконвае ў п'есе ролю стаража Мірана.

Аднак найбольш воплескаў атрымаў драмгуртк са Скупава, які даў пастаноўку п'есы Купалы «Прымакі». Скупаўскі драмгуртк яшчэ даволі малады. Існуе ён ад пачатку гэтага года. Але як жа прыгожа іграе скупаўская моладзь. Найбольш горача прысутныя апладзіравалі ігру Ніны Гарустовіч у ролі Кацярынкі.

Зрэшты не толькі ігра, але і дэкарацыя, і характэрызацыя, і самыя ўборы самадзейнікаў пераканалі журы ў тым, каб драмгуртку са Скупава прызнаць першае месца. Ён і выступіць на ваяводскім аглядзе гурткоў мастацкай самадзейнасці на кубак «Нівы».

У антрактах агляду была арганізавана рэдакцыяй «Нівы» цікавая «згадуй-згадуля» — папулярызуючая часопіс. Узнагароду галоўнага рэдактара «Нівы» — камплект аўтаручак — прызнаную для пераможцы гэтай імпрэзы атрымаў Мікалай Свентахоўскі з Тынявіч Вялікіх.

І так, павятовы агляд у Гайнаўцы стаўся цікавай культурнай разрыўкай насельніцтву і выказаў, што мастацкая самадзейнасць на Гайнаўшчыне стаіць на высокім узроўню, у чым немалая заслуга настаўнікаў.

(вб)



За хвіліну на сцэну. Да выступленняў рыхтуецца драмгуртк з Ляшукоў. У цэнтры Аляксандр Харкевіч.



Сцэна з п'есы «Прымакі» ў выкананні драмгуртка са Скупава.

Фота: М. Тарасевіч

## УВАГА—

Апошнім часам Рэпертуарная пазычальня кніжак Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку асабліва ўзбагацілася новымі песеннымі і музычнымі выданнямі. Апрача вядомых ужо «Беларускіх частушак» і «Зборнікаў беларускіх народных песень» маем зборнікі — «Беларускія танцы» (ноты); «Беларускія народныя песні» ў апрацоўцы Г. Вагнера для змешанага хору (а капела); «Песні Азершчынскага хору»; «Песні» Юры Семянякі;

(Працяг са стар. 3)

да, цяпер ён ужо называў сябе сваім сапраўдным імем — Вілі Меер. На працягу першага тыдня пасля выкрыцця правакатара, у Дзежане - Меера стралялі пяць раз: яго падпільноўвалі на вуліцах, на кватэры, якую за гэты час ён вымушаны быў тройчы мяняць, і, нарэшце, у рэстаране афіцыянтка паслала яму ў грудзі дзве кулі.

З Банвіля цяжка параненага Меера вывезлі да нейкага шпіталя, і некалькі месяцаў пра яго нічога не чулі. Якое ж было здзіўленне мясцовых партызан, калі даведаліся, што Дзежане - Меер зноў з'явіўся на вуліцах Банвіля ўжо ў ролі ад'ютанта новага начальніка гестапа оберста Гартнера. Усе ведалі, што правакатар можа пазнаць шматлікіх удзельнікаў руху супраціўлення. Становішча ўскладнялася і дзейнасцю самога оберста Гартнера. Гэта быў стары, вопытны гестаповец. Ён выпусціў з турмы шматлікіх вязняў, сярод якіх было не мала крыміналістаў. Большасць з іх была падкуплена і завербавана Гартнерам.

Некалькі дзён таму партызаны перахапілі паведамленне Гартнера ў Берлін, у якім ён абяцаў у найбліжэйшы час ліквідаваць самых выдатных кіраўнікоў руху супраціўлення і намякаў на тое, што ён натрапіў на след нейкай арганізацыі, што існуе ў шарэгах самой нямецкай арміі.

76

Гартнер дзейнічаў і вёў сябе надзвычай асцярожна. Пасля нядаўнай спробы макі высадзіць у паветра памяшканне гестапа, ён працаваў невядома дзе, на вуліцы з'яўляўся толькі ў суправаджэнні аўтаматчыкаў-гестапаўцаў і Дзежане-Меера. Абедаў Гартнер у афіцэрскім рэстаране «Савоя», які ахоўваўся днём і ноччу.

Патрэба як найхутчэй ліквідаваць Гартнера і Меера была відавочнай.

Генрых так задумаўся, што нават не пачуў, як вярнуўся дзяншчык.

— Ну, што новага, Курт?

— Усе рэкамендуюць «Савой».

— Далёка да яго?

— На паралельнай вуліцы, насупраць.

За дзесяць мінут Гольдрынг ужо быў там. «Уваход толькі для нямецкіх афіцэраў», прачытаў Генрых на ўваходных дзвярах, каля якіх стаяў вартаўнік.

За стойкай буфета ён убачыў тоўстага немца.

— Маю гонар гаварыць з гаспадаром рэстарана? — спытаў Гольдрынг.

— Яволь, гер обер-лейтэнант! — па-вайсковаму адказаў той. — Швальбе, уласнік рэстарана.

— Тады дазвольце пазнаёміцца — обер - лейтэнант барон фон Гольдрынг. Я толькі што прыехаў, але ўжо даведаўся, што найлепшы рэстаран у горадзе гэта ваш. Спадзяюся, вы не адкажацеся тыдняў два - тры частаваць мяне сваімі абедамі?

77

— О, з радасцю! Я шчаслівы мець такіх высокапастаўленых гасцей!

— Дык, мо', для знаёмства мы вып'ем з вамі па бакалу добрага віна? — запрапанаваў Гольдрынг.

— Буду лічыць за гонар!

— Абеды, гер барон, вы будзеце заказваць, а столік ці асобны нумар выберыце самі, — сказаў Швальбе, калі распілі віно.

— Абедаць буду ў асобным нумары, і я хачу паглядзець яго зараз.

— Прашу!

У суправаджэнні гаспадара рэстарана Гольдрынг апынуўся ў доўгім калідоры з вялікай колькасцю дзвярэй.

— Дазвольце зайсці сюды? — спытаў Гольдрынг, беручыся за ручку першых дзвярэй!

— Туды нельга заходзіць. Тут абедае оберст Гартнер. Можаце заняць вось гэты!

Гаспадар адкрыў дзверы пакоя, які быў насупраць уваходу ў нумар Гартнера.

— О, гэта мяне зусім уладжвае! — згадзіўся Гольдрынг, акінуўшы вокам добра ўмэбляваны нумар.

Заказаўшы абед на заўтра, Генрых пайшоў у гасцініцу і ўвесь вечар прасядзеў дома, абмяркоўваючы план.

На другі дзень, калі Гольдрынг абедаў у рэстара-

78



 

# Трыбуна чытачоў

## З жыцця Варшаўскага аддзела БГКТ

У памяшканні Беларускага Таварыства ў Варшаве мгр Мацей Канапацкі выступіў з цікавым дакладам аб польска - беларускіх літаратурных сувязях. На дакладзе прысутнічалі не толькі члены БГКТ, але таксама прадстаўнікі польскага грамадства, якіх цікавяць праблемы польска - беларускага літаратурнага супрацоўніцтва ў мінулым і ў сучасны момант. Між іншым прыбыў на даклад перакладчык беларускай паэзіі на польскую мову Богдан Жыранік. Пасля даклада адбылася ажыўленая дыскусія.

✻

Паэт Яша Бурш выступіў перад членамі Варшаўскага аддзела БГКТ са сваімі новымі вершамі на беларускай і польскай мовах.

✻

У памяшканні Варшаўскага аддзела БГКТ мгр Францішак Берніковіч прачытаў даклад «Удзел беларусаў у студзеньскім паўстанні». Даклад выклікаў вялікае зацікаўленне сярод слухачоў.

В.Ш.
Варшава

## У шостую гадавіну

12 мая г.г. мнагалюдна было ў залах Салдацкага Клуба ў Варшаве пры вул. I Арміі Войска Польскага. Сышліся сюды члены і сімпатыкі нашага Таварыства з усіх канцоў сталіцы, каб урачыста адзначыць 6-годдзе з дня ўтварэння Варшаўскага аддзела БГКТ.

З юбілейнай прамовай выступіў вядомы наш паэт Віктар Швед. Затым, зразумела, не абышлося без мастацкай часткі. Пад першыя акорды беларускіх танцавальных мелодый у вялікай зале клуба пачаўся шумны баль.

Ад шчырай душы хочацца пажадаць Аддзелу далейшых поспехаў у яго складанай дзейнасці над выхаваннем маладой нашай інтэлігенцыі.

(сл)

## Школа ў Ласінцы

Школа ў Ласінцы існуе шмат гадоў. Многа вучняў выйшла ў свет з гэтай школы, многа настаўнікаў тут працавала. Зараз у Ласінцы працуе пяць настаўнікаў. Усе яны працуюць у сваёй аколіцы. Кіраўніком школы з'яўляецца Сяргей Бароўскі. Школа ў Ласінцы змяшчаецца ў трох будынках. У школе ёсць бібліятэка, якая мае шмат кніжак. Школа агароджана плотам, навокал растуць дрэвы. Каля школы разлягаецца школьны агарод, на якім часта працуюць вучні на сваіх дзялянках.

**Янка Керсноўскі**
Ласінка

*Да — вучняў пачатковых і сярэдніх школ з беларускай мовай, — вучняў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі.*

## ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

**Напэўна час ад часу любіце Вы аб чымсьці памарыць. Аб чымсьці вельмі пажаданым. Можа марыце аб рэчах рэальных, магчымых да здзяйснення, а можа аб фантастычных, казачных, так вось — каб толькі памарыць. Можа марыце аб тым, кім Вы будзеце, калі дажывеце гадоў вашых бацькоў. У кожным выпадку аб сваіх марах напэўна Вы можаце многа чаго сказаць.**

**Дык вось, калі ласка. Галоўнае праўленне Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў паразумленні з Кураторыум Беластоцкай школьнай акругі аб'яўляюць КОНКУРС пад назвай «МАЕ МАРЫ».**

**У конкурсе могуць прыняць удзел усе вучні пачатковых і сярэдніх школ сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (Пшыспособеня Ральнічага).**

**Кожны ўдзельнік конкурсу павінен напісаць на беларускай мове працу, пад загалоўкам «МАЕ МАРЫ». Працу прыслаць да 30.IX.62 г. па адрасу Г.П. БГКТ Беласток, вул. Варшаўская 11. Аб'ём працы не абмяжоўваецца.**

**За найлепшыя працы аўтары атрымаюць узнагароды:**

**I узнагарода на суму 500 зл.**
**дзве II узнагароды па 300 зл.**
**дзве III узнагароды па 200 зл.**

**Апрача гэтага, больш цікавыя працы адзначаны будуць кніжнымі ўзнагародамі і дыпломамі, а некаторыя з іх апублікаваны на старонках «Нівы» і «Зоркі». Аўтары іх атрымаюць звычайныя аўтарскія ганарары.**

**Зразумела, што вучні пачатковых школ маюць не меншыя магчымасці здабыцця першай узнагароды ад вучняў сярэдніх школ. Пры ацэнцы працы возьмецца пад увагу перш за ўсё шчырасць і арыгінальнасць выказаных думак. Запамятайце, не можа быць добрым сачыненне выдуманае, напісанае без шчырасці і пераканання.**

**Не забудзьце падаць сваё прозвішча і дакладны адрас, а таксама клас і школу, у якой вучыцеся, і колькі Вам гадоў.**

**I так, ужо сёння бярыцеся да напісання сачынення на тэму «МАЕ МАРЫ».**

**Кураторыум Беласт. школьнай акругі**
**Галоўнае праўленне БГКТ.**

## ЗМВ у Навінах

Вёска Навіны невялікая. Моладзі таксама мала, але яна арганізуе розныя гурткі. Гурток ЗМВ існуе ад 1 мая і налічвае 16 чалавек. Члены ЗМВ сарганізавалі гурток БГКТ, ён жа бярэцца за работу, і калі яшчэ больш папрацуе, то напэўна будзе выязджаць у другія вёскі. Старшынёю з'яўляецца Іван Ляшкевіч. Адна бяда ў тым, што няма святліцы. Члены гуртка абавязаліся вясці працу ў вёсцы і развучыць як найбольш п'ес, скетчаў, песень і выступіць у сваёй вёсцы, а нават і ў суседніх вёсках. Нялёгка тут разгарнуць культурную працу. Галоўная перашкода — гэта недахоп памяшкання на чытэльню. Гурток ЗМВ арганізуе вечаровы сельскагаспадарчы курс. Мастацкі гурток развучвае 3 п'есы. Апрача таго сход моладзі абмеркаваў наступныя прапановы: ажывіць бібліятэку, якая была б адкрыта некалькі дзён у тыдні, у гаспадара наладзіць святліцу.

**Мікалай Банькоўскі**
Навіны

## АБРЭЗВАННЕ ПАМІДОРАЎ

На ранні збор вырошчваць памідоры можна на адзін парастак, а ўсе бакавыя парасткі выразаць. З так вырошчваных раслін атрымліваем ранні, але ніжэйшы ўраджай. Пры паліках гадаваць можна памідоры на 2—3 парасткі, пакідаючы заўсёды галоўны парастак і адзін—два парасткі бакавыя. Першы бакавы парастак пакідаецца пад першай гронкай, якая заўсёды найсільнейшая і найранейшая, другі парастак бакавы — ніжэй зямлі (лісткоў не абрэзваць!). Далейшае дагляданне — гэта вырэзванне лісця парасткаў бакавых, якія будуць вырастаць у кустах. Выразаць іх, калі яны яшчэ малыя, не дапускаць вышэй як 10 см. Памідоры неабрэзваныя даюць большы ўраджай, але пазнейшы. Памідоры абрэзваныя хутчэй даюць плады і яны большыя. Каб прыспешыць ураджай, можна аглаўляць памідоры — адрэзваць верх галоўнага парастка, пакінуўшы над апошняй гронкай два лісткі.



Абрэзванне памідораў: крыжыкамі абазначаны парасткі, якія трэба выразаць.



Схема вырошчвання памідораў на 3 парасткі



Аглаўленне памідораў

## КІНО

**Праграма**
**ад 4—10.VI.1962 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Wyższa zasada" (czeski). 5—7. VI.; „SOS Titanic" (ang.), 8—10. VI.

**Кляшчэлі**
„Wiatr ucichł przed świtem" (jugosł.), 5—7. VI.; „SOS Titanic" (angiel.), 8—10. VI.

**Навасады**
„Towarzysze broni" (franc.), 9—10. VI.

**Нараў**
„Liga dżentelmenów" (angiel.), 6—10. VI.

**Нараўка**
„Daleki ukochany" (radz.), 6—10. VI.

**Чаромуха**
„Kongo walczy" (radz.), 5—7. VI.; „Zuzanna i chłopcy" (polski), 8—10. VI.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Przeciwko Bogom" (polski), 6—10. VI.

**Бранск**
„Światła na biegunie" (radz.). 5—7. VI.; „Gorsza miłość" (węgierski), 8—10. VI.

**Гродзіск**
„Aktorka księcia pana" (radz.), 9—10. VI.

**Орля**
„Nafta" (polski), 6—10. VI.

**Райск**
„Chleb i róże" (radz.), 6—10. VI.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**
„Skok o świcie" (radz.), 5—7. VI.; „Koniec drogi" (radz.), 8—10. VI.

**Супрасль**
„Czekajcie na listy" (radz.), 5—7. VI.; „Alba Regia" (węgierski), 8—10. VI.

**Чорна Весь**
„Symfonia leningradzka" (radz.), 5—7. VI.; „Spotkanie" (polski), 8—10. VI.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Skrzynki na start" (angiel.), 5—7. VI.; „Skok o świcie" (radz.), 8—10. VI.

**Мілейчыцы**
„Liga dżentelmenów" (angiel.), 5—7. VI. „Tu radio Gliwice" (NRD), 8—10. VI.

**Нурэц**
„100 kilometrów" (włoski), 5—7. VI.; „Zmartwychwstanie" (radz.), 8—10. VI.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Dzień powszedni" (NRD), 5—7. VI.; „Porucznik Marynin" (radz.), 8—10. VI.

**Шудзялава**
„O moim przyjacielu" (radz.), 6—10. VI.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Bunt kapitana" (czeski), 9—10. VI.

**Новы Двор**
„Perła" (meksyk.), 9—10. VI.

**Ружаны Сток**
„Odwiedziny prezydenta" (polski), 9—10. VI.

У днях ад 4—10 VI. у мясцовасцях Янаў, Крынкі, Гарадок, Чыжы фільмы высвятляцца не будуць.


Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.

Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.

Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024.

Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie 5 $ — w USA.

Nakład 5000 Białk F-1




## ДОБРЫ СПОСАБ

— Чаму ты, мама, сумуеш? — пытае сын.
— А не бачыш ты, што дзірка ў коміне? — адказвае маці. — Праз яе ідзе дым у хату.
— Нічога, праб'ем другую дзірку і дым выйдзе, — кажа сын.

Прыслаў **Янка Кірылюк**

## СУПАКОІЛА

Бацька чуе з другога пакоя крык трохгадовага сына.
— Што ты там робіш дзіцяці, што гэтак крычыць?
— Нічога... Б'ю Янку, каб перастаў плакаць...

Прыслала **Марыся Данілецкая**

## КУР'ЁЗЫ

**Рэкорд поціскаў**

Студэнт Кільскага універсітэта П. Гіней устанавіў сусветны рэкорд рукапаціскання. У працягу 9 гадз. 15 мін. ён паціснуў 9.002 рукі. Папярэдні падобны рэкорд адпаведна быў: 10 гадз. 10 мін. — 9.001 рука.




## ПАХВАЛІЎСЯ

— Паглядзі, суседзе, якую я новую сякеру знайшоў.
— А дзе ж ты яе знайшоў?
— Вось там, каля твайго хлява ляжала.

Прыслаў **Віктар Красоўскі**



**Ланцуговая рэакцыя.**




**Калі няма кошкі**




**— Ало!.. Падай адвёртку!...**

## ШЧАСЛІВЫ

Адвакат: — Вам пагражае пятнаццаць год турмы.
Абвінавачаны: — А калі я не буду так доўга жыць?
Адвакат: — Гэта ўжо ваша шчасце.

Прыслаў **Васіль Лісевіч**



**— Які ж ашуканец! Сказаў, што з'яўляецца тваім сваяком.**

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

По просьбе Мікалая Сычэўскага са Шчэціна змяшчаем папулярную сучасную савецкую песню.

### Я люблю тебя, жизнь

Словы К. Ваншэнкіна
Музыка Э. Калманоўскага

Я люблю тебя, жизнь,
Что само по себе и не ново,
Я люблю тебя, жизнь,
Я люблю тебя снова и снова.

Вот уж окна зажглись,
Я шагаю с работы устало, —
Я люблю тебя, жизнь,
И хочу, чтобы лучше ты стала.

Мне не мало дано:
Ширь земли и равнина морская,
Мне известна давно
Бескорыстная дружба мужская.

В звоне каждого дня,
Как я счастлив, что нет мне покоя
Есть любовь у меня,
Жизнь, ты знаешь, что это такое...

Как поют соловьи,
Полумрак, поцелуй на рассвете,
И вершина любви,
Это чудо великое — дети!

Вновь мы с ними пройдем:
Детство, юность, вокзалы, причалы,
Будут внуки потом,
Все опять повторится сначала.

Ах, как годы летят,
Мы грустим, седину замечая,
Жизнь, ты помниш солдат,
Что погибли тебя защищая?

Так ликуй и вершись
В трубных звуках весеннего гимна:
Я люблю тебя, жизнь,
Я надеюсь, что это взаимно!

## АДКАЗАЎ

— Чаму ў цябе брудныя рукі? — пытае настаўнік вучня.
— Гэта ад сшытка, — адказаў вучань.

Прыслаў **Міхал Кот**



**Дадатковы стымул.**

## РЫБАК

— Вудачкі ўзяў... кручкі маю... чарвякоў нарыхтаваў... Здаецца ўсё... Ага... забыў грошы! А то мог бы без рыбы вярнуцца дамоў.

Прыслаў **Сцёпа Грыгарук**





**Без слоў.**

# СУМЛЕННАСЦЬ

Пагаворым сёння аб сумленнасці, — прапануе п'яны ў дым Кастусь і дадае:

— Сёння мала людзей, якія згодзяцца жыць сумленна. Пяройдзем да фактаў. Як вядома, Фама любіць прысвойваць чужыя рэчы. Выходзіць ён аднойчы з хаты, бачыць на дрэве каля брамкі прыбітая паперка. Зрывае Фама паперку і чытае: «4000 узнагароды таму, хто выдасць злодзея або зверне тэлевізар бібліятэцы ў Вольцы Малой».

Фама сунуў у кішэню паперку, а тут падыходзіць да яго невядомы грамадзянін і прыкурыць просіць. Вымае невядомы з кішэні папяросы, а разам з імі і паперку, такую, як у Фамы. Закурылі.

— Што гэта за паперка? — цікавіцца Фама.

— Перад грамадскай радай вісела, — адказвае невядомы. — Тэлевізар свіснулі. Волька гэтая ў васьмі кіламетрах за лесам, а культурныя злачынцы і туды дабраліся.

Затым невядомы зацягнуўся дымам і пасля паўзы працягваў:

— Праездам я тут, затрымаўся недалёка, мо' пройдземся да мяне? Уступлю за дзесятку тэрмометр. Карысная рэч. За акном вісіць, есці не просіць, градусы паказвае зімою і летам, і працуе без выхадных дзён.

Прыемнэ размаўляючы, дайшлі яны да хаты Максіміхі, дзе, выявілася, і затрымаўся незнаёмы.

Калі яны ўвайшлі ў хату, бачыць Фама — на падлозе стаіць тэлевізар.

— Ваш? — пытае незнаёмага.

— А чый жа, — адказвае той, падаючы Фаме тэрмометр. — Выпадкова купіў за паўтары тысячы.

Тут невядомы просіць прабачэння і выходзіць з хаты.

Фама да тэлевізара. Збоку сляды белай фарбы — нумар здрапаны. Не інакш — інвентар бібліятэкі. Становішча засморканае. Да міліцыі тры кіламетры, а невядомы вылiты бандыт. Такому нічога не каштуе пачаставаць чалавека нажом.

Калі невядомы вярнуўся, Фама дружалюбна пытае яго:

— Скажыце, мілы чалавек, навошта вам гэтае пудэлка?

— Люблю культурныя мерапрыемствы, — адказвае той. — Даўно мару аб кінасеансах у сваёй хаце. Ды наўрад, ці споўняцца мае мары. Цяжкое пудэлка, не ведаю, ці зацягну яго дахаты. Мне яшчэ 10 вёрст з гакам.

— Навошта мучыцца, — прапануе Фама, — тут тавар, а я купец.

— Цана магазінная 6 тысяч, давай палавіну і справе канец, — адказвае незнаёмы.

— Якое скурадзёрства! — абураецца Фама. — Падвойны заробак хочаш сцягнуць з працоўнага пралетарыя.

— Уступі яшчэ палавіну, — просіць Фама, а сам думае, чорт з табою, і так зараблю тысячу.

Спрачаліся, таргаваліся, нарэшце незнаёмы гаворыць:

— Здароўе даражэй грошай, з-за кінасеанса не хачу з грыжай хадзіць, давай паўтары тысячы і тупай дамоў з тэлевізарам.

Прыйшоўшы дахаты, Фама запрог каня і паехаў у Вольку Малую.

Уваходзіць у бібліятэку і гаворыць:

— Кланяецца вам тэлевізар і цікавіцца, ці маеце ўжо чатыры тысячы.

— Не чатыры, а пяць, — адзываецца бібліятэкарша.

У Фамы сэрца спынілася ад радасці.

— Давайце грошы, тэлевізар на фурманцы ў мяне, — усхвалявана гаворыць ён.

— Нічога не разумею, — здзіўляецца бібліятэкарша.

— Самі ж сказалі пяць тысяч, — прыпамінае Фама.

— Дык гэта ў мяне кніг толькі, — смяецца бібліятэкарша.

Бачыць Фама справа дзьмутая. Апусціў ён нос і павярнуў аглоблі. Ды і тэлевізар, як потым выявілася, не быў тэлевізарам, а толькі скрынкай ад тэлевізара. Цудадзейных унутранасцей у ёй ніякіх не было. Усе механізмы і прылады былі выняты.

— І пакажыце мне чалавека, які згодзіцца хутчэй сваё аддаць, чым чужое ўзяць, — зрабіў вывад Кастусь.

Развітаўшыся з сябрам, іду і думаю: не мае рацыі Кастусь, на здарэнні з Фамой нельга будаваць тэорыі аб адсутнасці сумленнасці.

З гэтакімі думкамі купляю ў краме пачку папярос, рэшту ў руцэ сціскаю і адыходжу.

Потым, пералічыўшы грошы, сцвярджаю, што 40 грошай не хапае.

Аб гэтым не раскажу Кастусю, а то ён яшчэ больш абшырна разгорне свой пункт погляду.

*Дзядзька Лявон*